# ПАРАФІЯЛЬНЫ СТАТУТ

## АДНОСНА ПРЫЧАСЬЦЯ СЬВЯТЫХ ХРЫСТОВЫХ ТАЙНАЎ –

## ПАЧЭСНАГА ЦЕЛА І КРЫВІ

## ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА




Парафія Сьвятамучаніка Язафата, Архівіскупа Полацкага,

і Ўваскрасеньня Хрыстовага,

Антвэрпан 2013

**Сьвятое Прычасьце – гэта одно з 7-мі Таемстваў Сьвятой Хрыстовай Царквы, якое вымагае асаблівай да яго падрыхтоўкі.** Як і іншыя 6 Таемстваў, Прычасьце Пачэснага Цела і Крыві было ўсталявана Самым Госпадам нашым Ісусам Хрыстом. Гэта адбылося падчас Апошняй Вячэры, традыцыйна называнай Патаемнай. Сьвятое Евангельле паводле Мацьвея распавядае пра гэта наступнае: “*Калі яны (Апосталы і вучні Хрыстовыя) елі, узяў Ісус хлеб, і дабраславіў, і паламаў, і раздаў вучням, і гаворыць:* “***Бярыце, ежце, гэта ёсьць Цела Маё***”. *І, узяўшы келіх, склаў падзяку і даў ім, кажучы:* “***Піце з гэтага ўсе. Бо гэта ёсьць Кроў Мая Новага Запавету, якая праліваецца за многіх на адпушчэньне грахоў***”(Мц.26:26-28). – “***Гэта рабіце ў Маю памяць***” (Лук. 22:19).

З волі Бога Прычасьце стала жыцьцёва неабходнай умовай для асьвячэньня і збаўленьня чалавека. Сьвятое Пісаньне гаворыць пра гэта з усёй катэгарычнасьцю: “*Сапраўды, сапраўды кажу вам: калі не будзеце есьці Цела Сына Чалавечага ды не будзеце піць Крыві Яго, не будзеце мець жыцьця ў сабе саміх. Хто есьць Цела Маё і п’е Кроў Маю, мае жыцьцё вечнае; і Я яго ўваскрашу ў апошні дзень. Бо Цела Маё ёсьць сапраўдная ежа, а Кроў Мая ёсьць сапраўднае пітво. Хто есьць Цела Маё ды п’е Кроў Маю, ува Мне застаецца, а Я ў ім*” (Ян 6:53-56).

Такім чынам, Сьвятое Прычасьце зьяўляецца адной з галоўных умоваў сулучнасьці з Богам і вечнага збаўленьня. Аднак яно ня ёсьць нейкім дармовым квітком у Валадарства Нябеснае – думаць так вялікая аблуда. Зьяўляючыся абавязковым для Хрысьціяніна, яно не становіцца аўтаматычна яго правам. Гэта хутчэй прывілегія, якую ён атрымоўвае пры ўмове яго пакаяньня і

высілкаў да жыцця ў добрым сумленьні і чыненьні дабра. Той, хто прыступае да Келіху без належнай падрыхтоўкі, без разважаньня і ачышчэньня сумленьня ў Таемстве Пакаяньня, той цяжка грашыць і ставіць пад пытаньне не толькі збаўленьне сваёй душы, але і сваё здароўе і ўвесь дачасны дабрабыт. Пра гэта навучае Слова Божае, кажучы: “*Хто нягодна будзе есьці Хлеб ды піць Келіх Божы, той будзе вінаваты супраць Цела і Крыві Госпадавай. Дык хай выпрабуе чалавек сябе самога, і тады хай есьць ад таго Хлеба ды п′е з Келіха таго. Бо хто есьць і п′е, той есьць і п′е прысуд сабе, не разважаючы пра Цела Госпада. Таму шмат кволых і хворых, ды многа хто памірае*” (1 Кар. 11:27-30).

Зыходзячы з вышэй сказанага, а таксама з абавязку належнага навучаньня і напамінаньня Хрысьціянаў адносна Праўды, адкрытай Хрыстом Збаўцам дзеля выпраўленьня і ўпарадкаваньня хрысьціянскага жыцця і збаўленьня душаў, дасьвядчаючы некаторую расслабленасьць і несур′ёзнасьць пэўных вернікаў што да Таемства Сьвятога Прычасьця, і ўводзіцца дадзены Парафіяльны Статут адносна прыняцьця гэтага Таемства. Мэтай яго ёсьць давядзеньне да ведама, хто, як часта і пры якіх умовах можа прыступаць да Сьвятога Прычасьця ў Царкве Божай.

**РЫХТУЮЧЫСЯ ПРЫСТУПІЦЬ**

**ДА СЬВЯТОГА ПРЫЧАСЬЦЯ,**

**НАЛЕЖЫЦЬ ВЕДАЦЬ І ТРЫМАЦЦА НАСТУПНАГА:**

1. Да Таемства Сьвятога Прычасьця мае права прыступаць **толькі Хрысьціянін**, то бок той, хто прыняў законнае Сьвятое Хрышчэньне ў Імя Айца, і

Сына, і Сьвятога Духа, і ўвайшоў праз гэта ў супольнасьць сьвятых – Царкву Хрыстовую.

2. Да Таемства Сьвятога Прычасьця мае права прыступаць толькі той, хто **вызнае сьвятую праваслаўную веру ў сулучнасьці са Сьвятым Рымскім Апостальскім Пасадам**, гэта значыць праз сваю веру і навяртаньне ўцелаўлёны ў Адзіную Сьвятую Каталіцкую Апостальскую Царкву.

**3.** Да Таемства Сьвятога Прычасьця мае права прыступаць толькі той, хто **захоўвае Запаведзі Божыя і Царкоўныя**, а ў выпадку іх ламаньня праз грэх, ачышчае сябе ў Таемстве Сьвятога Пакаяньня (Споведзі). Да Таемства Сьвятой Споведзі Хрысьціянін абавязаны прыступаць найменей 1 раз на год, у часе Вялікага Посту. У выпадку няшчасьця ўпаданьня ў сьмяротны грэх вернік **не мае права** прычашчацца, **аж пакуль не пакаецца ў злачынстве супраць Бога і бліжняга і не выспавядаецца перад сьвятаром.**

4. Да Таемства Сьвятога Прычасьця мае права прыступаць толькі той, хто **рыхтуецца да гэтага** праз захаваньне посту у сераду і пятніцу, чытаньне Сьвятога Пісаньня, духовую сабранасьць і малітоўнае засяроджаньне напярэдадні і ў сам нядзельны дзень і праз поўны (ад пачатку і да канца) удзел у Боскай Літургіі.

5. Ахрышчаныя людзі, якія не падзяляюць царкоўнага вучэньня адносна веры і маральнасьці, вядуць

публічна грахоўны спосаб жыцьця і адабраюць грэх, **не маюць права прычашчацца**.

6. Да Сьвятога Прычасьця належыць прыступаць **нашча**. Лёгкі сьняданак дазваляецца толькі дзецям, асобам у стане хваробы, альбо ў выпадку позьняга часу пачатку Боскае Літургіі.

7. Пры вынясеньні Келіха з алтара і выгалошваньні сьвятаром словаў: “Са страхам Божым, вераю і любоўю падыходзьце!”, належыць **перахрысьціцца, пакланіцца і затым скрыжавана скласьці рукі на грудзях** і прамовіць з усімі <u>наступную малітву</u>:

**Веру, Госпадзе, і вызнаю, што Ты сапраўды Хрыстос, Сын Бога жывога, што прыйшоў на сьвет збавіць грэшнікаў, сярод якіх я самы першы. Веру таксама, што гэта сапраўды Тваё сьвятое Цела і пачэсная Кроў. Малюся Табе: зжалься нада мною і даруй мне мае правіны вольныя і міжвольныя, якія я зрабіў словам і ўчынкам, сьвядома і несьвядома. І дай мне без асуджэньня прыняць Твае сьвятыя Тайны для адпушчэньня грахоў і жыцьця вечнага.**

**Зрабі мяне сёньня, Сыне Божы, удзельнікам Тваёй Тайнай вячэры; я ня здраджу ворагам Тваім тайны і ня дам пацалунку, як Юда, але як разбойнік вызнаю Цябе: успомні мяне, Госпадзе, у Тваім валадарстве.**

**Няхай прыняцьце сьвятых Тваіх Тайнаў будзе мне не на суд ці асуджэньне, але для аздараўленьня душы і цела. АМІН.**

За тым, не хрысьцячыся, са складзенымі на грудзях накрыж рукамі (правая зьверху левай), з усякай пабожнасьцю і малітоўнай канцэнтрацыяй падыходзіць да Сьвятога Прычасьця – перш алтарнікі і акаліты, затым дзеці, а потым мужчыны і жанчыны.

8. Падыйшоўшы да Келіха належыць выразна назваць сваё поўнае сьвятое імя (атрыманае пры хрышчэньні і мірапамазаньні), раскрыць шырока вусны, і, атрымаўшы Пачэснае Цела і Кроў Госпада нашага Ісуса Хрыста, закрыць вусны і пацалаваць ніжні край Келіха, прамаўляючы ў розуме малітву хвалы: **“Слава Табе, Божа; слава Табе, Божа; слава Табе Божа!”**

9. Пасьля прыняцьця Сьвятога Прычасьця належыць спакойна адыйсьці на сваё месца, дзе маліцца да завяршэньня Боскай Літургіі. Пасьля сьвятарскага блаславеньня і цалаваньня Крыжа належыць прыватна альбо сумесна з іншымі прычасьнікамі адмовіць належныя малітвы падзякі за Сьвятое Прычасьце (глядзець у малітоўніку – “Госпаду памолімся”, старонка 227) і толькі тады зь мірам ісьці да дому.

10. Увесь дзень пасьля Сьвятога Прычасьця старацца праводзіць у духовай сабранасьці і пабожнасьці, пазьбягаючы ўсяго, што можа абразіць веліч Госпада, зь Якім мы злучаемся ў гэтым Боскім Таемстве.

Пробашч парафіі

Стаўрафорны сьвятар Ян Майсейчык